№ 241 (1804)
Чацвер , 18 снежня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — 0...+2, без ападкаў, уначы — +4...+6, дождж; у Брэсце ўдзень — +5...+7, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +6...+8, уначы — +4...+6, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — -3...+5, дождж; у Гомелі ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — +1...+3, дождж; у Магілёве ўдзень — -1...+1, уначы — +4...+6, на працягу сутак — дождж.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## *Віктар ІВАШКЕВІЧ:* «Я не змяніў сваіх поглядаў...»

Учора закончыўся тэрмін зняволення былога галоўнага рэдактара газеты "Рабочы" Віктара Івашкевіча.

З інтэрната спецустановы яго выставілі, паводле слоў самога Івашкевіча, а палове восьмай раніцы, хаця гаварылі, што вызваляць не раней як апоўдні. Былы зняволены лічыць, што ўлады проста пабаяліся, што збяруцца прадстаўнікі апазіцыі і недзяржаўных СМІ.

Віктар Івашкевіч заявіў, што пасля вяртання з няволі не збіраецца адразу брацца за выданне новай газеты, хаця не выключае, што калі-небудзь займецца любімай справай.

***"Нягледзячы на год зняволення, я не стаў на "шлях сапраўдны", не змяніў сваіх поглядаў, затое зразумеў, што трэба яшчэ больш адказна ставіцца да тых фактаў, якія трапляюць у друк, і неаднаразова іх правяраць"***, — сказаў БелаПАН Віктар Івашкевіч.

Пасля вызвалення ён плануе заняць месца адміністратара ва Управе БНФ і пачаць пошукі інвестараў для новай газеты.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**

## Трыццаць тысяч мінчан — без дэпутата

Пасля таго, як на пачатку сакавіка прайшлі выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў, у сталіцы Беларусі засталася адзіная акруга — №9, якая да гэтага часу не мае свайго дэпутата. Нагадаем чытачам, што ў гэтай акрузе спачатку былі спадзяванні, што перамог кандыдат **Аляксандр МЕЛЬНІКАЎ,** але пасля шэрагу праверак, змяненняў і ўдакладненняў высветлілася, што яму не хапіла нейкіх сотых працэнта, каб стаць дэпутатам.

Такім чынам, 30 тысяч выбаршчыкаў з мікрараёна "Серабранка" фактычна не прадстаўлены ў гарадскім Савеце. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір НАВАСЯД,** які пражывае ў гэтай акрузе, звярнуўся ў Мінскую гарадскую выбарчую камісію і пракуратуру г.Мінска з просьбай правесці паўторныя выбары. Паколькі вопыт ранейшых выбараў паказвае, што найбольш мэтазгодна праводзіць іх, сумяшчаючы з іншай выбарчай кампаніяй, Уладзімір Навасяд прапануе правесці выбары дэпутатаў па Малінінскай выбарчай акрузе № 9 адначасова з выбарамі дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў, якія запланаваныя на 2004 год.

## Хворыя дзеці ўдзячны дэпутату Скрабцу

Супрацоўнікі, бацькі і выхаванцы ўстановы "Востраў надзеі" накіравалі ліст падзякі на адрас дэпутата Палаты прадстаўнікоў **Сяргея СКРАБЦА.** Дзякуючы дэпутату хворыя дзеці, што наведваюць гэтую ўстанову, атрымалі ў якасці спонсарскай дапамогі цукар. Многія сем'і, дзеці з якіх наведваюць "Востраў надзеі", належаць да малазабяспечаных і няпоўных сем'яў. Таму падтрымка, якую атрымлівае іх "другая сям'я", вельмі важная.

**Уладзімір КОТ.**

## Пустая «Карона»

Днямі ў Гродне адкрыўся гандлёвы цэнтр "Карона". Шчыра кажучы, гэта не стала святам для абласнога цэнтра. З амаль 1700 гандлёвых боксаў працавала толькі некалькі дзесяткаў. Пяць залаў агульнай плошчай 35 тысяч квадратных метраў былога прадзільнанітачнага аб'яднання прапанавалі бедны выбар тавараў: цацкі, елачныя ўпрыгажэнні, адзенне, касметыку. Натоўпы расчараваных пакупнікоў вымушаны былі шпацыраваць, не сцішваючы хады, па вялізных плошчах пустых гандлёвых залаў, каб сагрэцца. Пасінелыя прадпрымальнікі падбадзёрвалі кліентаў, сцвярджаючы, што ацяпленне ў памяшканнях ужо ўключана і хутка пацяплее.

Відавочна, што гродзенцы "купіліся" на шырока разрэкламаваны новы рынак, таму што народ усё пад'язджаў і пад'язджаў за абяцаным шырокім асартыментам навагодніх тавараў...

А ў гэты час у палове гандлёвых месцаў ішлі будаўнічыя работы: там свідравалі, пілавалі і фарбавалі боксы. На вуліцы вакол "Кароны" ўсталёўваліся ліхтары і праводзілася разметка тэрыторыі, відаць, пад аўтастаянку. Прыступкі для ўваходу ў гандлёвыя залы наогул аказаліся не абсталяванымі поручнямі, з-за чаго няўдалыя пакупнікі-разявакі рызыкавалі грымнуцца з 2-метровай вышыні проста на зямлю.

Застаецца загадкай, як рынак у такім небяспечным для жыцця гродзенцаў стане мог быць прыняты адпаведнай прыёмнай камісіяй?

**Алена СІНЕВІЧ.**
**pahonia.promedia.by**

## За 5 кілаграмаў ртуці — 7 тысяч долараў

Днямі ў Рэчыцы (Гомельская вобласць) пры спробе збыць 5 кг ртуці былі затрыманы два мясцовыя жыхары. Ад гэтай здзелкі яны мелі намер атрымаць 7 тысяч долараў ЗША, паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі. Аперацыю праводзілі супрацоўнікі міжраённага аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Гомельскага аблвыканкама, Рэчыцкага РАУС і байцы АМАП УУС.

Заведзена крымінальная справа. Высвятляецца, дзе зламыснікі знайшлі атрутны метал.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

*16 снежня 2003 года ў Белавежскай пушчы адбылося адкрыццё рэзідэнцыі беларускага Дзеда Мароза. Карагоды Дзедаў Марозаў і Снягурак у вёсцы Камянюкі Камянецкага раёна.* *(Падрабязнасці на 2-й старонцы.)*

**Фота ByMedia.net**

## Белавежская пушча павялічыцца амаль удвая

У найбліжэйшы час да 110 тысяч гектараў тэрыторыі Нацыянальнага парку "Белавежская пушча" будзе далучана яшчэ 46 тысяч гектараў сумежных тэрыторый. Як паведаміла намеснік генеральнага дырэктара парку па даследчай працы **Ганна Дзянгубенка**, жывёле ў пушчы стала не хапаць корму. І на новых тэрыторыях будуць зроблены кармавыя палі.

**Лавінія АРЭШКА.**



## Пяць новых пагранпераходаў

*Пяць новых пагранпераходаў на беларуска-польскай мяжы можа быць адкрыта ў 2004 годзе для пашырэння кантактаў паміж насельніцтвам дзвюх краін.*

Пра гэта было заяўлена падчас сустрэчы ў Камянцы (Брэсцкая вобласць) намесніка міністра замежных спраў Беларусі Аляксандра Міхневіча з намеснікам міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы Паўлам Дакоўскім, якія з'яўляюцца і сустаршынямі Беларуска-польскай міжурадавай каардынацыйнай камісіі па справах трансгранічнага супрацоўніцтва.

**Андрэй СЕРАДА.**

**ЗАКУЛІССЕ**

## Хто будзе прэм'ер-міністрам?

Магчыма, сёння ў Палаце прадстаўнікоў назавуць імя прэм'ер-міністра Беларусі. Як вядома, дагэтуль ягоныя абавязкі часова выконваў **Сяргей СІДОРСКІ.**

Па некаторай інфармацыі, учора ў адной з камісій Палаты прадстаўнікоў разглядалі толькі адну кандыдатуру — **С.Сідорскага.**

## Курсы замежных валют на 18 снежня

*Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў на 18 снежня наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2151 рубель
1 еўра — 2654,23
1 расійскі рубель — 73,54
1 аўстралійскі долар — 1595,72
1 балгарскі леў — 1358,43
1 дацкая крона — 356,66
1 СДР — 2939,84
1 ісландская крона — 29,54
10 японскіх іен — 200,14
1 казахскі тэнге — 14,79
1 канадскі долар — 1615,05
1 кувейцкі дынар — 7299,57
1 кыргызскі сом — 48,66
1 латвійскі лат — 3990,72
1 літоўскі літ — 768,41
1 малдаўскі лей — 166,42
1 нарвежская крона — 323,79
1 польскі злоты — 571,39
1 сінгапурскі долар — 1260,33
10.000 турэцкіх лір — 15,01
1 украінская грыўна — 402,93
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3771,46
1 чэшская крона — 82,13
1 шведская крона — 294,33
1 швейцарскі франк — 1708,43
1 эстонская крона — 169,62

**БелаПАН.**

## Вы можаце стаць мецэнатам...

Мы ўжо пра гэта пісалі. Хочацца напомніць яшчэ раз.

Побач з намі жывуць людзі, якія вельмі хацелі б чытаць "Народную волю". Але, на жаль, у іх няма сродкаў на падпіску.

Працягніце руку дапамогі тым, хто бяднейшы за Вас. Мецэнаты, мы загадзя кажам Вам: "Дзякуй!"

**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ "НАРОДНАЯ ВОЛЯ".**

**P.S.** *Мы маем вялікі спіс прозвішчаў і адрасоў інвалідаў, пенсіянераў, якія просяць дапамагчы ім аформіць падпіску на "Народную волю". За даведкай звяртайцеся па тэлефоне* ***206-68-71.***

## Зачем Олегу Каразею Наталья Коляда?

Сотрудник отдела общей профилактики Министерства внутренних дел Беларуси старший лейтенант Олег Георгиевич Каразей позвонил 17 декабря домой Наталье Коляде — сотруднику правозащитного отдела гражданской инициативы Хартия'97. Олег Каразей предложил правозащитнице прийти в отдел общей профилактики МВД "для беседы". Наталья Коляда отказалась ехать в МВД без официальной повестки. Сотрудника отдела общей профилактики МВД интересовало также, знает ли Коляда журналиста пресс-центра Хартии'97 Наталью Радину.

Напомним, что Наталья Коляда была задержана сотрудниками милиции в штатском 10 декабря во время акции "Мы помним" в защиту прав человека в Беларуси, однако была отпущена без составления протокола. На следующий день к Наталье Коляде пришли сотрудники милиции. Милиционеры сообщили, что прокуратура потребовала взять с Натальи Коляды письменные объяснения, касающиеся ее присутствия на акции. Сотрудников милиции, в частности, интересовала печатная продукция, которую Наталья Коляда якобы раздавала на акции "Мы помним". Под "печатной продукцией" милиционеры, видимо, подразумевали портреты пропавших белорусских оппозиционеров, которые держали участники акции. Сотрудники Центрального РУВД также по запросу прокуратуры интересовались сайтом www.charter97.org.

**www.charter97.org.**

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**

# Возвращение к Хрущеву?

**Борис ЖЕЛИБА,**
**доктор экономических наук, профессор**

Экономика Беларуси входит в решающий, или определяющий, как тогда, в былые советские времена, год пятилетки. Потому А.Лукашенко велел максимально напрячься и выполнить данные народу вторым Всебелорусским собранием обещания. Состоявшемся, кто помнит, накануне президентских выборов в 2001 г. Все директивные показатели, над которыми корпело правительство, решительно пересмотрены им на 2004 г. в сторону неуклонного подъема.

Рост ВВП — не менее 9—10%, продукция сельского хозяйства должна рвануть на 11%, наши с вами доходы — на 8—9% и т.п. Иначе пятилетку не осилим.

Если принять указиловку за чистую монету, то часть граждан и вовсе ждет приятное. Зарплата бюджетников прыгнет к декабрю решающего года до 170 долларов, а не до 145 долларов, как подсчитывали нерадивые правительственные экономисты. А в 2005 году трудовой народ Беларуси должен получить вожделенные 250 долларов в среднем за месяц. Какие при этом получим цены на услуги и товары — не столь важно, никто об этом не говорит.

Нацбанку велено удвоить золотовалютные резервы. Заметим, это при отрицательном сальдо торгового баланса. Задача Министерству по налогам и сборам — снизить налоговую нагрузку для предприятий на 1,5—2%, задача Минфину — обойтись в покрытии дефицита бюджета без банковских кредитов. Минстат свои задачи, надо полагать, сам понимает: постоянно совершенствовать методики подсчета директивных показателей. К примеру, засчитывать в ВВП не только миллиардные нераспроданные стратегические запасы продукции и дебиторскую задолженность, а может, и оставшуюся на полях после уборочной сельхозпродукцию, искать прочие потенциальные доходы.

Всего этого можно достичь, как сказано, если внимательно считать себестоимость, привлекать инвестиции, словом, вскрывать неисчерпаемые внутренние резервы. Еще с тех же советских времен помнится, что вся беда социализма была в том, что он так и не сумел раскрыть все свои потенциальные резервы и возможности. Расти нам, безусловно, надо. Изношенная экономика острейшим образом нуждается в деньгах. Это сегодня аксиома. Вопрос, кто ж нам их даст? Скажете — только Россия. Для этого нужно решить уравнение со многими неизвестными.

На пороге новый год, но в экономической сфере известно гораздо меньше, чем неизвестно. Неизвестно, какими будут цены на российский газ с 1 января. Правительство надеется, что не более 50 долларов. Для белорусской экономики это "вопрос жизни и смерти". Год на исходе, торги продолжаются. Неизвестно толком, сколько нефти получит Беларусь в следующем году, как разрешились вопросы собственности на "Запад-Транснефтепродукт". В чьей же собственности он будет — российской или белорусской? Еще более неизвестно, будет ли с 2005 года в Беларуси введен в обращение российский рубль? Российский премьер Касьянов вовсе заявляет о последнем оставшемся, надо думать по времени, шансе для введения российской валюты. Главе белорусского государства тут есть над чем поломать голову. С введением российского рубля, значит, с принятием российского налогового законодательства, более щадящего производителей, наш бюджет недосчитается немало налогов и поступлений. К примеру, НДС будет снижен с 20 до 18%. По требованию России прекращается кредитование правительства Нацбанком. Следовательно, дефицит бюджета будет покрываться за счет размещения государственных ценных бумаг, т.е. за счет внутреннего долга и за счет внешних источников, которые надо еще изыскать. По оценкам самого Минфина, в 2004 году предстоит предусматривать в бюджете более 50 млрд. руб. на погашение гособлигаций.

С появлением российского рубля неизвестно, что станет и с белорусскими банками, если к тому же разрешат их клиентам обслуживаться и в российских, а деньги вместе со счетами клиентов уйдут туда, в Россию. Неизвестно, кто и как будет кредитовать убыточный сектор экономики. Ведь сегодня банки под административным нажимом выдают примерно 20% кредитов. Неизвестно, какую Россия даст компенсацию Беларуси на смягчение всех этих и других возможных катаклизмов, которые могут потрясти нашу экономику в переходный к чужой валюте период?

Как показывают последние события, великая соседка не думает расщедриваться. Тогда стоит ли отдавать ей важнейшие для экономики денежно-кредитные и бюджетно-финансовые рычаги управления, которые уплывут из-под рук с потерей собственных денег? С другой стороны, с введением своей валюты Россия не допустит обвала белорусской экономики, раскошелится, на сколько надо. На то ей и западный коридор. В общем, для главы государства, надо думать, куча головоломок с этим российским рублем.

В то время как белорусская экономика зависла в крайне неопределенном состоянии, выдвижение подобных завышенных ростовых директив выглядит ничем иным, как волюнтаризмом, хорошо знакомым нам с хрущевских времен. Однако, на наш взгляд, не все так и страшно. Всегда остается в загашнике главный резерв: эксплуатация российских геополитических интересов. Для этого в очередной раз надо, конечно, чем-то, может, и более серьезно поступиться. Например, сторговаться с Россией хотя бы за пару миллиардов долларов по "Белтрансгазу", и тогда этой суммы вполне хватит, чтобы закрыть экономические дыры на 2004 год. И в бюджете, и в социальной сфере, и золотовалютные резервы удвоить. Как известно, продавать у нас еще пока есть что. Это, прежде всего, флагманы нефтехимического комплекса. Есть еще у нас государственные МАЗ и тракторный завод. Именно российский капитал (другой масштабный в Беларусь не придет) будет поддерживать белорусскую экономику. Параллельно с переходом на российский рубль главе придется и решать для себя довольно трудные проблемы. Главная из них — как отдать монетарный, значит, экономический суверенитет государства, но сохранить политическую власть? Более того, как поставить себе на службу российский капитал?

Тем временем стали известны результаты выборов в российскую Государственную Думу. Если победа пропутинской "Единой России" была очевидна, снижение рейтинга КПРФ вполне предсказуемо, то рост влияния национал-патриотов (считай, национал-социалистов) Жириновского и великодержавных шовинистов "Родины" Рогозина, за которых отдали голоса миллионы россиян, просто пугает. Кто будет у власти в России в 2008 году и что будет с Россией — для Беларуси будет не просто большой вопрос. Из российской рублевой зоны, значит из России, нас уже не выпустят никогда.

# ЕС — Беларусь: пульс почти не прощупывается

*Европейская пресса в драматичных тонах комментирует провал саммита ЕС, прошедшего в Брюсселе 12-13 декабря. Автору этих строк довелось побывать в стенах Европарламента в самый разгар страстей вокруг проекта Конституции Евросоюза. Представители старых демократий костили амбициозных поляков да испанцев, которые-де блокировали весь процесс, замахнувшись на непомерное представительство в руководящих органах сообщества.*

*При упоминании же Беларуси мои собеседники в офисах циклопического здания Европарламента только разводили руками. Европа откровенно не знает, что делать с этой непонятной страной, которая, будучи страшно далекой от упомянутых страстей, тем не менее уже в мае будущего года становится соседкой расширенного ЕС.*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Чиновник Еврокомиссии, который занимается проектами для Беларуси, сообщил вашему корреспонденту, что их эксперты теперь с лупой изучают декрет Лукашенко № 24 и его же указ № 537 от 28 ноября — эти документы наконец-то освободили иностранную безвозмездную техническую помощь от налогов и таможенных платежей. Прежний порядок, грозивший ободрать добродетелей как липку, привел, в частности, к заморозке ряда проектов по линии ТАСИС. И теперь вот, хотя деньги у Европы в принципе есть, специалисты дотошно изучают документы, подписанные белорусским официальным лидером: а нет ли каких подводных камней?

Такое вот поведение европейских структур — красноречивый симптом того, что официальному Минску уже не верят даже тогда, когда он вроде бы смягчает позицию по одному из вопросов сотрудничества. Ждут подвоха.

Скорее всего, конфиденциально поделился своим мнением тот самый еврочиновник, проекты ТАСИС для Беларуси рано или поздно разморозят. Но это в принципе кошачьи слезы. Коренные вопросы сотрудничества ЕС с официальным Минском остаются висеть в воздухе. И, вероятно, надолго.

О том, как трудно нащупать выходы на Беларусь, говорил автору этих строк и сотрудник брюссельского офиса Фонда Сороса **Виорел Урсу**. О сложностях работы заграничных общественных структур с третьим сектором в нашей стране мы долго беседовали в бельгийской столице с сотрудницей организации "Европейский молодежный форум" **Таней Бассараб**. А несколько моих собеседников из аппарата Европарламента откровенно признавались: перспектива сотрудничества с вашей страной — в сплошном тумане! У нас бы сказали, наверное, — глухо, как в танке.

Эксперт аналитического центра "Стратегия" **Валерий Карбалевич** отметил в интервью для *"Белорусских новостей"*, что за последние год-полтора Запад испробовал разные способы воздействия на Беларусь.

Были пряники. Так, Национальное собрание получило статус в Парламентской ассамблее ОБСЕ. Эта организация согласилась на урезанный мандат своей миссии в Минске. Страны ЕС сняли визовые барьеры для белорусского руководства. Наконец, Евросоюз разработал программу усиленного сотрудничества с новыми соседями, обозначив в ней местечко и для Беларуси. Увы, Минск — скажем мягко — не высказал в ответ особого энтузиазма.

С другой стороны, напоминает эксперт, со стороны Запада в этот же период хватало и традиционно жестких заявлений. Но и кнут не подействовал.

**"Таким образом,** — резюмирует политолог, — **этот год особенно четко показал, что влияние ЕС и Запада в целом на Беларусь стремится к нулю. Растерянность Запада понятна: Беларусь ему представляется неким бесчувственным телом, которое не реагирует ни на уколы, ни на ласку"**.

Главное же, отмечает Валерий Карбалевич, то, что по сути ничего не происходит в самом белорусском обществе. Нет массовых протестов, демократическое движение не предлагает Западу каких-либо внятных стратегий политики в отношении нашей страны. Создание, например, Европейской коалиции "Свободная Беларусь" представляется политологу лишь конъюнктурной реакцией части оппозиции на развитие событий в своем же, оппозиционном лагере.

Эта вязкая болотистость внутренней белорусской ситуации тоже ставит европейские и трансатлантические структуры в затруднительное положение. И все-таки ... **"Нужен прорыв, нужен какой-то четкий сигнал со стороны ЕС,** — считает Валерий Карбалевич. — **Чтобы внятно прозвучало: дверь в Евросоюз для Беларуси в принципе открыта. Пусть не через год и не через пять — но открыта. В нашей стране самые разные слои и структуры должны почувствовать реальную перспективу вхождения в Европу. Ведь опросы показывают, что в смысле европейского выбора в нашем обществе дремлет большой потенциал... Да, от Запада требуется решительный, может быть, в чем-то и рискованный шаг. Но хуже, если ЕС увязнет в проблемах своего расширения".** По мнению эксперта "Белорусских новостей", Евросоюзу стоило бы приподняться над внутренними проблемами, связанными с перспективой трудного переваривания новой порции членов сообщества. Ведь в итоге расширенный ЕС в прямом и переносном смысле упрется в Беларусь.

Эксперт Международного института политических исследований **Андрей Федоров,** в свою очередь, полагает, что импульс к взаимопониманию прежде всего должен исходить из Минска. **"Велика опасность, что ЕС действительно завязнет с расширением, может возобладать идея Ширака о двухуровневой интеграции в рамках ЕС**, — предположил политолог в интервью для "Белорусских новостей". — **Нынешняя междоусобица по поводу европейской конституции — минус для Беларуси. Мы можем отойти на еще более дальний план. Хотя, с другой стороны, есть факторы (например, итоги выборов в российскую Думу), создающие предпосылки для того, чтобы официальный Минск серьезно и в позитивном плане переосмыслил роль европейского вектора. Короче, слово за белорусским руководством".**

Ну а пока в Европарламенте наша страна представлена на постоянной основе разве что навевающей суровые думы картиной Виктора Шматова из его чернобыльского цикла. Что тоже, в общем-то, символично.

*Брюссель—Минск.*

### Справка «Белорусских новостей»

*ТАСИС — это программа, разработанная Европейским Союзом для новых независимых государств (бывших республик Советского Союза за исключением стран Балтии) в целях содействия развитию гармоничных и прочных экономических и политических связей между ЕС и этими странами. В 1994 году еще одной страной — партнером ТАСИС стала Монголия.*

*Цель программы состоит в поддержке инициатив стран-партнеров по созданию обществ, основанных на политических свободах и экономическом процветании.*

*ТАСИС добивается этой цели путем предоставления субсидий (безвозмездного финансирования) для оказания поддержки процессу перехода к рыночной экономике и демократическому обществу.*

# Аляксандра Герасіменя пакуль не выступае. Затое самая прыгожая

*17-гадовая плыўчыха Аляксандра Герасіменя стала пераможцам конкурсу прыгажосці "Каралева спорту", арганізаванага Нацыянальным алімпійскім камітэтам Беларусі і спартыўнай газетай "Прессбол".*



Конкурс быў ініцыіраваны камісіяй НАК "Жанчыны і спорт", якую ўзначальвае вядомая ў мінулым гімнастка Марына Лобач. Ідэю падтрымаў Міжнародны алімпійскі камітэт, які выдзеліў грант у памеры 1500 долараў ЗША. Фотасесіі спартсменак (усяго восем чалавек) публікаваліся на старонках "Прессбола", пасля чаго было праведзена галасаванне на Інтэрнет-сайце і па пошце, у якім узялі ўдзел 1366 чалавек. Аляксандра Герасіменя атрымала 350 галасоў (25,6 працэнта). Другое месца заняла тэнісістка Вольга Барабаншчыкава — 245 (17,9 працэнта), трэцяе — гімнастка Элона Асядоўская — 241 (17,6). Далей ідуць Наталля Цылінская (веласпорт) — 196 (14,3), Алеся Чарняўская (таэквандо) — 122 (8,9), Анастасія Верамеенка (баскетбол) — 102 (7,5), Вікторыя Паўловіч (настольны тэніс) — 82 (6,0) і Галіна Лебедзева (скачкі на батуце) — 28 (2,0).

Варта адзначыць, што тытул "Каралевы спорту" трохразовы прызёр чэмпіянатаў Еўропы і пераможца этапа Кубка свету Аляксандра Герасіменя атрымала дыскваліфікаванай на два гады за ўжыванне допінгу (нарандрастэрону). Спартсменка і яе трэнер адмаўляюць свядомае ўжыванне забароненага рэчыва і гавораць пра правакацыю нядобразычліўцаў. Тэрмін дыскваліфікацыі заканчваецца ў ліпені 2005 года.

ХАКЕЙ

## Усе білеты прададзены

*Усе білеты на матчы суперфіналу Кантынентальнага кубка па хакеі з удзелам хакейнага клуба "Гомель", якія ўпершыню пройдуць у Гомелі 8—12 студзеня 2004 года, ужо раскуплены. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка Упраўлення па фізічнай культуры, спорце і турызме Гомельскага аблвыканкама і член аргкамітэта **Ігар Малчанаў**.*

*"На астатнія матчы прададзена амаль 80 працэнтаў білетаў. Калі і далей рэалізацыя пойдзе гэткімі ж тэмпамі, то ўжо за тры дні да пачатку спаборніцтваў купіць білеты будзе немагчыма", — заявіў Малчанаў.*

Гісторыя розыгрышаў Кантынентальнага кубку NHF бярэ свой пачатак з сезона 1997/98 гадоў. Спачатку гэтае спаборніцтва праводзілася сярод прызёраў нацыянальных першынстваў Еўропы і лічылася наступным паводле рангу пасля Кубку еўрапейскіх чэмпіёнаў (пазней — Еўраліга) і Кубка Еўропы. Але па розных прычынах розыгрышы кубка Еўропы і Еўралігі спыніліся, і Кантынентальны кубак застаўся адзіным буйным хакейным спаборніцтвам у Еўропе.

Упершыню ў гісторыі хакейных баталій суперфінал розыгрышу Кантынентальнага кубку NHF адбудзецца ў Гомелі ў Лядовым палацы спорту. Падрыхтоўка да гэтай падзеі ідзе поўным ходам. Як паведаміў Ігар Малчанаў, ужо вызначаны ўсе бакі, якія будуць фінансаваць падрыхтоўчыя работы і, як вынік, размяркоўваць прыбытак.

У розыгрышы кубка ў Гомелі возьмуць удзел шэсць хакейных клубаў: "Гомель", "Керамін-Мінск", "Поўначсталь" (Расія), "Лугана" (Швейцарыя), "Руан" (Францыя) і "Славан" (Славакія).

**Алена КАЛАЧОВА.**

ЗАКУЛІССЕ

## «Сябры» ад'язджаюць у Расію. На Новы год

*Папулярны беларускі ансамбль "Сябры" возьме ўдзел у навагодніх праграмах расійскага тэлебачання.*



Як паведамляе прэс-служба Пасольства Беларусі ў Расіі, "Сябры" стануць удзельнікамі вялікага навагодняга свята ў канцэртнай зале "Расія" ў Маскве, а таксама запісу навагодніх праграм на НТБ і іншых каналах расійскага тэлебачання.

"Мы ганарымся тым, што будзем прадстаўляць мастацтва Беларусі", — сказаў кіраўнік калектыву, народны артыст рэспублікі **Анатоль Ярмоленка**. Для артыста вельмі важна ведаць, што яго мастацтва запатрабавана ў краіне, адчуваць падтрымку дзяржавы, лічыць ён.

Свайму 30-гадоваму юбілею "Сябры" прысвяцілі новую праграму. З ёю ансамбль з вялікім поспехам выступіў ужо ў Палацы Рэспублікі ў Мінску, пакажа яе і на гастролях у Ізраілі, куды калектыў адправіцца ў студзені. Ансамбль "Сябры" чакаюць таксама ва Украіне, а 5 сакавіка пройдзе грандыёзны канцэрт у Дзяржаўным Крамлёўскім палацы.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

КРЫМІНАЛ

## Дэтэктар хлусні знайшоў забойцу

Супрацоўнікам гомельскай міліцыі дзякуючы дэтэктару хлусні ўдалося раскрыць злачынства дзесяцігадовай даўніны.

У лютым 1993 года на адной з будоўляў горада быў знойдзены труп мужчыны. У поле зроку міліцыі адразу трапілі два знаёмыя загінуўшага 1958 і 1968 гадоў нараджэння. Падазроныя спачатку прызналіся ва ўчыненні забойства, а затым адмовіліся ад сваіх паказанняў. Следства знайсці перакanaўчых доказаў не змагло, падазроных адпусцілі, а справу закрылі.

У 2003 годзе пры УУС Гомельскай вобласці пачаў працаваць аддзел па раскрыцці злачынстваў мінулых гадоў. Супрацоўнікі аддзела прыступілі да расследавання забойства. На допыт з выкарыстаннем паліграфа (дэтэктара хлусні) выклікалі падазронага 1968 года нараджэння. Аналіз паказаў, што ён хлусіў. Пасля гэтага мужчына прызнаўся. Падазроны паведаміў, што ў дзень забойства ён і два яго сябрукі ў час абеду вырашылі выпіць. А затым адзін з іх пайшоў і забраў з сабою пакет з недапітай гарэлкай. Два сабутэльнікі дагналі яго, забралі спіртное і пачалі збіваць сябрука. Затым адзін з іх узяў камень і некалькі разоў ударыў пацярпелага па галаве, што і стала прычынай смерці.

Як паведаміў начальнік аддзела па раскрыцці злачынстваў мінулых гадоў **Уладзімір Мамрукоў**, хутчэй за ўсё той, хто прызнаўся ў саўдзеле ў злачынстве, будзе адпушчаны, а яго прыяцель, які забіў ахвяру каменем, у 1997 годзе сам загінуў у дарожна-транспартным здарэнні.

**БелаПАН.**

ШАШКІ

## Абмежаванне дамкі

Працягваем **класіфікацыйны конкурс-12.** У якасці **трэцяга задання** падаем прыклад кандыдата ў майстры спорту Дзмітрыя Камчыцкага (Магілёў) на тэму абмежавання чорнай дамкі:

**Белыя:** дамкі a1, d8, простыя c3, d2 (4).

**Чорныя:** дамка e1, простыя a5, f2, f4 (4).

*Выйгрыш (адно ачко).*




Тым, хто справіцца з ім, будуць залічаны і аўтарскія рашэнні першых двух заданняў.

Тэрмін для адказаў — традыцыйныя два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**

### Супаставім рашэнні

Праверце, калі ласка, рашэнні пазіцый, змешчаных 13 лістапада.

**"Завяршаем конкурс"** (В.Шульга): c1 (e5, e7) h6 (a3 A, b2) c3x. A (gf6) f8 (a3) eb4x. Некампазіцыйныя варыянты і пабочныя рашэнні ў іх не прыводзяцца. Паглыбленне эцюда І.Соіна на два хады (Анталогія эцюдаў-64, ч.1, д.676). Указалі Л.Вітошкін, В.Масквіч, Д.Камчыцкі, М.Гофман і У.Сапяжынскі.

**Па-за конкурсам** (В.Шульга). В.Масквіч лічыць, што ў № 1 ёсць пабочнае: B (f6, g5) h2x. Нават для вопытных ігракоў павучальна прадоўжыць рашэнне: (a5) c5 (b6, b4) b8 (c3) a7!! (b2) d4 (a1) h8x. Як заўважыў В.Грабенка, тут вымалёўваецца такое эцюднае заканчэнне:

**Белыя:** дамкі e3, g1 (2).

**Чорныя:** a3, a7, b6 (3).

**Змест:** h6 (c5 A, c5) g7x. A (b2) d4 (a1 B) h8 (c5) h6-g7x. B (c1) e3x.

Працягі C і D у №2 некаторыя чытачы не адносяць да кампазіцыйных з-за магчымай у іх дваістасці хадоў белых: у варыянце D — c7/b8, а ў разгалінаванні C — b6/a7. Але такія недахопы не знішчаюць іх наогул, паводле Кодэксу шашачнай кампазіцыі Беларусі 2000 года.

**Рашылі:** У.Захарчук, Л.Жыхар, М.Гардзіеўскі, А.Янчук, Л.Вітошкін, П.Каролік, В.Грабенка, А.Чумакоў, Аляксандра Камінская, А.Белы, В.Масквіч, У.Мазанік, М.Падбярэзскі, Л.Пасвісцелік, С.Супрунюк, В.Астрынскі, Д.Камчыцкі, В.Дзялендзік, М.Гофман, У.Сапяжынскі, А.Іванькоў, І.Працук, П.Елісееў, Г.Логвінаў, А.Ашыхмін, Ч.Якубоўскі, В.Краўчук, В.Собаль (развязаў і заданне № 11), П.Чэрнак, М.Буканаў, І.Калякоў, В.Казарэвіч, Ф.Хадачынскі, Ч.Сінкевіч, В.Касцян, В.Шульга, М.Андрушчанкаў, В.Бялоў, А.Барысаў, Э.Дамброўскі, Я.Белы, У.Голуб, Алена Забела, Б.Іваноў, П.Кажаноўскі, А.Кагоцька, А.Ляхоўскі, Ю.Ліпскі, Л.Мінчук, В.Міхаль, У.Мурашка, І.Наўроцкі, Р.Пагнаеўскі, Г.Пятровіч, А.Сапегін, А.Сакалоў, У.Сямёнаў, Р.Тарасюк.

### Чэмпіянат свету

Ён адбыўся ў Галандыі па шашках-100 сярод жанчын. Перамаглі ў ім, як ужо паведамлялася, Вольга Камышляева (Галандыя) — 19 ачкоў, Зоя Голубева (Латвія) — 18 і Вольга Балтажы (Украіна) — 17. Дарэчы, В.Камышляева, якая заваявала чэмпіёнскі тытул упершыню, і З.Голубева — былыя мінчанкі.

Чацвёртае-сёмае месцы з 14 ачкамі падзялілі Таццяна Чуб (Галандыя), Алена Мільшына (Расія), Ірына Пашкевіч (Беларусь) і Тамара Тансыккужына (Расія).

Сёння дзякуючы нашаму карэспандэнту Васілю Грабенку маем магчымасць пазнаёміць вас з творчасцю віцэ-чэмпіёнкі свету, міжнароднага гросмайстра і старшыні Федэрацыі шашак Беларусі Ірыны Пашкевіч.

**1. Белыя:** (Т.Чуб): 16, 21, 26, 31, 34, 35, 38, 39, 40 (9).

**Чорныя:** (І.Пашкевіч): 6, 7, 11, 12, 17, 18, 24, 25, 28 (9).

Тут чорныя празорліва ахвяравалі шашку: 1... 28—32 2.38:27 18—23 3.39—33 23—28 4.33:22 17:28. Белыя з-за звязкі сваіх флангаў вымушаны не толькі вярнуць шашку, але і аддаць яшчэ адну: 5.27—22 6.34—29. Аднак дакладнай гульнёй чорныя давялі партыю да перамогі.

**2.Белыя** (І.Пашкевіч): 23, 28, 29, 32, 33, 35, 36, 37, 39, 43, 44 (11).

**Чорныя** (Н.Хукман): 10, 11, 12, 14, 15, 16, 17, 20, 21, 24, 26 (11).

Амаль у тым жа моцным стылі (захоп цэнтра, пагроза прарыву, звязка чужых сіл) Ірына Пашкевіч выйграла і гэты паядынак: 1.23—18 2.39:19 3.28:19 10—14 4.19:10 5.33—28 4—9 6.35—30 9—13 7.44—39 13—18 8.43—38 18—22 9.39—33 20—25 10.30—24x.

### Першая ліга

А ў Пінску ладзіўся чэмпіянат рэспублікі па шашках-64 (першая ліга). Яго ўпэўнена завяршыў мінскі майстар Юрый Файнберг (14 ачкоў з 18 магчымых). У міжнароднага майстра з Драгічына Васіля Нагурнага — 12 ачкоў і другое месца. На адно ачко адстаў трэці прызёр — мінчанін Сяргей Топаль. Гэта тройка пераможцаў, а таксама Іван Блізнец (Мар'іна Горка) і Віктар Самарын (Барысаў) перайшлі ў вышэйшую лігу.

Наш карэспандэнт В.Нагурны, поруч з інфармацыяй аб турніры, даслаў і чароўную камбінацыю з партыі:

**Белыя** (І.Блізнец): b2, c1, c3, d4, e3, f2, g5, h4 (8).

**Чорныя** (Ю.Файнберг): a3, a5, a7, c7, d6, e7, f6, g7 (8).

Згуляйце за чэмпіёна самастойна пры першым яго ходзе чорнымі — часу не пашкадуеце. Імёны прыслаўшых правільнае рашэнне будуць апублікаваныя.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ,**
**майстар спорту.**

ПРЭМ'ЕРА

# Уладзімір Караткевіч: і ў песні быў, ёсць, будзе!

**Спытай любога пра ўлюбёныя творы любімага пісьменніка, і ледзь не кожны, сярод іншых, назаве і "Зямлю пад белымі крыламі", і "Дзікае паляванне караля Стаха", і "Чорны замак Альшанскі" — класіку класікі сучаснай беларускай літаратуры.**

Паэзію ж вялікага творцы ведаюць, на жаль, куды менш. А дарэмна: і ў ёй, як і ў Караткевічавай прозе, — найвышэйшае ўвасабленне красы і багацця роднага слова, святых пачуццяў сыноўскай адданасці Бацькаўшчыне, бясконцай пяшчоты і ўдзячнасці ўсяму светламу і ўзвышанаму ў жыцці. Многія яго вершы настолькі спеўныя, што самі просяцца (ды і кладуцца) на музыку.



Можна толькі здзіўляцца, што да гэтай пары чамусьці нашы музычныя мэтры не надта заўважалі іх. Ды гэта ж проста слепата і несправядлівасць!

Гэтае непрымальнае "статус-кво" праіснавала да... пазаўчорашняга вечара. Несправядлівасць рашуча адмяніў нястомны прапагандыст беларускай музычна-песеннай культуры — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар Міхаіл Фінберг, які, можна сказаць, паставіў "у ружжо" лепшых нашых кампазітараў — Эдуарда Зарыцкага, Валянціну Сярых, Алега Елісеенкава, Алену Навуменка, Алену Атрашкевіч. І разам са сваім заслужаным калектывам — Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі — падарыў прыхільнікам мастацтва сапраўдны цуд. Унікальны канцэрт (ён адбыўся ў памяшканні сталічнага клуба імя Дзяржынскага пры фундатарстве Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода), які складаўся выключна з прэм'ерных песень, стаў незабыўным святам паэзіі і музыкі, што заўсёды побач і, як лічыць Міхаіл Якаўлевіч, "з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай чалавечых пачуццяў, дум і творчага натхнення".

Зварот да вытокаў беларускай паэзіі і музыкі — гэта ўжо традыцыя славутага ў краіне і за яе межамі музычнага калектыву на чале з мастацкім кіраўніком. Караткевічаўская праграма "Новыя песні" — працяг музычнага цыкла аркестра **"Славутыя імёны Беларусі"**, у якім набылі другое жыццё несмяротныя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Адама Міцкевіча і іншых класікаў.

З вялікім творчым уздымам працаваў аркестр Міхаіла Фінберга разам з сябрамі-кампазітарамі над новай, надзвычай адказнай праграмай. І яна ўдалася на славу! У выкананні салістаў Галіны Грамовіч, Наталлі Тамела, Яны, Таццяны Глазуновай, Аляксандра Яфіміка, Дзмітрыя Качароўскага, Юрыя Вашчука, Руслана Мусвідаса, Дзмітрыя Танюкевіча і іншых прагучала каля 30 песень на вершы **аднаго** паэта: цудоўныя песні на цудоўныя вершы, скразны матыў якіх — *"Мой чароўны беларускі край, Бацькаўшчына светлая мая!"*.

Гэтыя песні немагчыма слухаць (і, падобна, спяваць) без трапяткога душэўнага ўздыму, бо лірычныя і патрыятычныя пачуцці паэта, а за ім — кампазітараў і выканаўцаў — арганічна і непарыўна зліты ў адно, непадзельнае цэлае. І таму такой цэласнай атрымалася праграма, дзе сабраны, здавалася б, творы розных танальнасцяў і фарбаў: у іх — захапленне ціхай красой роднай зямлі і покліч да нязломнасці перад ворагам; пакуты юначага кахання і жартлівая вясёласць упартага шафёра, што адольвае нашы "найлепшыя ў свеце" дарогі... Гэта — узнёслы і сардэчны гімн Радзіме, якім можна назваць усю творчасць Уладзіміра Караткевіча.

Удзельнікі незабыўнай вечарыны мелі шчаслівую магчымасць пачуць (у запісе) голас самога Рыцара беларускага прыгожага пісьменства, які заклікае нас ведаць і шанаваць сваю гісторыю і духоўную спадчыну, берагчы сваю зямлю. Вядучы праграмы — заслужаны артыст Беларусі Генадзь Давыдзька пранікнёна чытаў паэтычныя шэдэўры Караткевіча, якія пакуль не пакладзены на музыку, але, трэба верыць, абавязкова сустрэнуцца з ёю. Як, напрыклад, радкі з прысвечанага Янку Брылю верша "Мова", што пераліваюцца проста ў душу:

*Ты мой ясны хлеб і каханы май,*
*Песня продкаў, нашчадкаў палі,*
*Без цябе, не з табой —*
*не патрэбен мне рай*
*На душы. У небясі. На зямлі.*

Геній нашай зямлі і ў прозе, і ў вершы, і ў песні — быў, ёсць, будзе!

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

# Поцелуй в наказание, или Куда девать нос?

*Вопрос о том, когда и почему люди начали целоваться, до сих пор остается загадкой. Древнегреческий философ Платон считал, что посредством поцелуя воссоединяются мужская и женская половинки первоначально шарообразного человека с четырьмя руками, четырьмя ногами и двумя головами, разделенного громовержцем Зевсом в наказание за гордость.*



В итоге наказание Зевса обернулось для людей истинным удовольствием. Хотя, к примеру, японцы целоваться не любят и даже во время "поцелуйных" сцен переключают телевизор. Древние египтяне никакого удовольствия в поцелуях тоже не находили, и даже знаменитая царица Клеопатра, искушенная в любовных утехах, ни разу не целовалась с мужчиной! Зато в Древнем Риме в поцелуях знали толк — в знак приветствия там было принято целоваться не только с возлюбленными, членами семьи и друзьями, но и просто с прохожими и уличными торговцами. Любителями поцелуев слыли и чопорные англичане, которые продолжали целоваться даже во время эпидемии чумы в середине XVII века, несмотря ни на какие государственные запреты. А когда в Америке в конце XIX века появились "Правила поведения в общественных местах", где поцелуи на публике были объявлены признаком дурного тона, в городских парках были вывешены такие объявления: "Целуясь, старайтесь оставаться незамеченными, не закрывайте глаза при поцелуе и непрестанно ведите наблюдение за аллеями парка, чтобы не подать другим дурной пример". А вот эскимосов никто и никогда не ограничивал, ведь их поцелуи — просто образец целомудрия: соприкоснулись носами, обнюхали друг друга и разошлись.



Не так давно ученые выяснили, что целоваться не только приятно, но и очень полезно. Оказывается, во время поцелуя организм вырабатывает большое количество нейропептидов, которые уничтожают вирусы и укрепляют иммунную систему. По мнению американских врачей, "затяжной" поцелуй благотворно влияет на кровеносную систему, к тому же легкие начинают работать в усиленном режиме: 60 вдохов в минуту вместо обычных 20, что очень полезно для их вентиляции. Доказано и то, что долгий и чувственный поцелуй помогает справиться с "гормонами стресса". О пользе поцелуев говорят и диетологи — ведь трехминутный поцелуй сжигает 12 калорий и нормализует обмен веществ. А косметологи советуют целоваться как можно чаще и дольше — оказывается, при поцелуе работают до 35 мускулов лица, массируя и разглаживая кожу. Исследования показали, что те, кто часто и с удовольствием целуются, живут в среднем на 8 лет дольше противников поцелуев. Особенно полезны ежедневные утренние поцелуи — известно, что, если муж, уходя на работу, нежно целует свою половину, это продлевает ему жизнь на 5 лет (а супруге — почему-то всего на два года!). Кстати, самой любвеобильной нацией признаны немцы: в среднем в день они целуются три-четыре раза в щечку и два раза — страстно. Второе место по частоте поцелуев разделяют россияне, итальянцы и испанцы. Зато по длительности поцелуя лидируют американцы: супруги Гризуолд из Мичигана даже попали в Книгу рекордов Гиннесса, слившись в поцелуе на целых 29 часов 37 минут (не прерываясь на еду и сон!). Не ударил лицом в грязь и другой американец, Альфред Вольфрам, награжденный титулом "самый быстрый" — за 480 минут "спринтер" перецеловал 8000 женщин! А вот под водой дольше всех на земле целуется молодая пара из Милана: в этом году они установили рекорд — одна минута двадцать четыре секунды! После конкурса рекордсмены признались, что таких потрясающих ощущений они никогда не испытывали: вкус подводного поцелуя заставил их полностью забыть о земной жизни.

А вот рассказывать о поцелуях лучше всех умеют жители Австралии — там каждый год проводятся соответствующие соревнования. Наибольшей популярностью пользуются рассказы о первом — самом запоминающемся поцелуе в жизни человека. Психологи выяснили, что большинство людей даже помнят, во что они были одеты! Также большинство участников опроса признались, что в тот памятный миг их мысли были заняты единственным вопросом: куда все-таки деваются носы при поцелуе?!

**Татьяна ЧУХРОВА.**
*("7 дней")*

## Четверг, 18 декабря

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.10** "Доброе утро, Беларусь!" Информационно-музыкальная программа.
**08.45, 14.45, 16.45, 00.00** "Моя страна".
**09.05** Исторический сериал **"Дело Дрейфуса"**. 1-я серия.
**10.05, 17.05** Детективный сериал **"Воскрешая мертвых"** (Великобритания). Фильм 4-й **"Поджигательница"**. 2-я серия.
**11.10** Сериал **"Цыган"** (Одесская к/с).
**12.10** Народная комедия **"Белые росы"** ("Беларусьфильм").
**13.40** "Маски-шоу".
**14.05** "Точка". Музыкально-развлекательная передача для молодежи.
**15.10** Приключенческий сериал **"Амазонка"**. Заключительная серия.
**16.05** "5х5". Программа для молодежи.
**18.05** Сериал **"Цыган"** (Одесская к/с). Заключительная **серия**.
**19.05** Комедийная мелодрама **"Колдовская любовь"**.
**21.00** "Панорама". Информационный канал.
**21.45** Полицейский детектив **"Страх над городом"**.
**00.15** "Клип-обойма".
**00.25** "Новая коллекция" Олега Лукашевича. "Кинорежиссер Марко Белоккио".

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.15** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал. 188-я серия.
**09.55, 22.05** Детектив **"Участок"**.
**10.50** "Теория невероятности". "Язык растений".
**11.15** Дисней-клуб. "Базз и его команда".
**14.00** Комедия **"Похищение центрового"**.
**15.30** "Угадай мелодию" с Валдисом Пельшем.
**16.00** Сериал **"Берег мечты"**. 77-я серия.
**16.50** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**18.15** Премьера. "Леонид Броневой. Артист поневоле". Документальный фильм.
**18.40** Смехопанорама Евгения Петросяна.
**19.10 "Земля любви, земля надежды".** Сериал. 189-я серия.
**20.00** Время.
**21.05** "Слабое звено" с Марией Киселевой.
**23.30** Ток-шоу "Окна".
**00.15** Русский экстрим.

### РОССИЯ

**07.45, 19.55** Телесериал **"Линии судьбы"**.
**08.45** Аншлаг.
**09.45** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.35** Вести.
**10.10** Местное время. Вести-Москва.
**18.00** Прямая линия с Президентом Российской Федерации В.В.Путиным.
**22.00** Вести+.
**22.20** "Исторические хроники" с Николаем Сванидзе. "1911. Петр Столыпин".
**23.15** Вести. Дежурная часть.

### ЛАД

**07.00, 20.00, 14.00** Новости.
**07.10** "В некотором царстве". Мультфильм.
**07.40** "Бюро находок". Иронические зарисовки.
**08.05, 22.05** Сериал **"Петербургские тайны"** (Россия).
**09.00** "Площадь искусств". "Любите ли вы театр..." Часть 4-я.
**09.30** "Здоровье". Тележурнал.
**10.00** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.20, 21.15** Сериал-мелодрама **"Грешная Анхелика"** (Венесуэла).
**11.05** "Сказки хрустального шарика". Мультфильм.
**11.15, 13.15** "Обычный необычный день". Семейный канал.
**11.50** Мелодрама **"Искатели счастья"** ("Беларусьфильм").
**13.40** "Девочка со спичками", "Хлеб". Мультфильмы.
**14.10** Мультиклуб.
**15.05** Приключенческий сериал **"Наши самые прекрасные каникулы"** 3-я серия.
**15.25** "Лиса, медведь и мужик", "Дед и журавль". Мультфильмы. ("Беларусьфильм").
**15.45** "Не зевай!" Телеканал для детей.
**15.55** Тележурнал для школьников "Бум".
**16.20** А.П.Чехов. "Чайка". Спектакль Гомельского областного драматического театра.
**18.50** Драма **"Хам"** ("Беларусьфильм"). 3-я серия.
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".

### НТВ

**09.00** Сегодня утром.
**09.25** Квартирный вопрос: Маша и кровать.
**10.15** Ток-шоу "Страна советов".
**11.00, 16.00** "Сегодня" с Ольгой Беловой.
**14.35** Ток-шоу "Принцип домино".
**16.25** Сериал **"Она написала убийство"** (США).
**17.35** "Моя любимая... машина". "Профессия - репортер".
**18.00** "Сегодня" с Михаилом Осокиным.
**18.40** Детективный сериал **"Москва. Центральный округ"**. 8-я серия.
**19.50** Премьера. Сериал **"Чужое лицо"**. 4-я серия.
**21.00** "Страна и мир". Главные события дня.
**21.35** Красная стрела.
**21.50** "К барьеру!" Ток-шоу Владимира Соловьева.
**23.05** Премьера. "Новейшая история: бежать из Гулага".

### СТВ+RenTV

**06.25, 15.25 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе".** Телесериал.
**06.50** "Трансформеры". Мультипликационный сериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.05, 18.05** "Минщина. Люди, события, факты".
**08.15** "Светская хроника".
**08.25, 23.05** "Технология".
**08.35** Психологическая мелодрама **"Джон и Мэри"**.
**10.05** "Без макияжа".
**10.25** "Фильм, фильм, фильм".
**10.40** "Портрет в интерьере". Виктор Масленников, художественный руководитель хора "Раніца".
**10.55** "Проект "Отражение": "Именем революции, или Привет от Кобы". Документальный фильм.
**11.25** "Дикая планета": "Большой парад животных". Документальный фильм.
**12.00 "Истинная любовь".** Теленовелла.
**12.55** Фестиваль газеты "Минский курьер". 3 часть.
**13.50 "Инструктор".** Телесериал. 4-я серия.
**14.45** "Человек, приносящий успех". Документальный фильм цикла "Общий дом".
**15.00** "Динозавры". Мультипликационный сериал.
**15.50** "Маска". Мультипликационный сериал.
**16.15** "Добро пожаловаться...".
**16.50** Фильм-притча **"Покаяние"**, 1-я серия.
**18.15** "Театральные истории".
**18.30 "Инструктор".** Телесериал. 5-я серия.
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.15** "Тема дня".
**20.25** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Фильм, фильм, фильм".
**20.55** Мистический фильм **"Мозговая атака"**.
**23.15** "Новости СНГ".
**23.30** "Душой исполненный полет. Балет "Кармина Бурана".
**00.00** Приключенческий фильм **"3000 миль до Грэйслэнда"**.

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Комедия **"Брильянтовая рука"**.
**19.15** "Знакомьтесь — Беларусь".
**19.25** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют.
**19.30** Многосерийный фильм **"Два капитана"**.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** Программа "У камина в "Камяніцы".
**21.30** Вестерн **"Быстрый и мертвый"**.

### ТВ ЦЕНТР

**04.45** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Люди и тени"**. Телесериал. 3-я серия.
**09.00** "Вся нечистая сила". К 100-летию Георгия Милляра.
**09.35** Европейские ворота России.
**09.45** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** Игра в прятки.
**11.20** Особая папка.
**11.50** Денежный вопрос.
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кестер"**. Детективный сериал (Германия).
**14.30** Все о здоровье в программе "21 кабинет".
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Тайна зеленой комнаты.
**16.00 "Комиссар Мулен"**. Телесериал (Франция).
**17.15** Дом на набережной.
**18.00 "Разлученные"**. Телесериал (Мексика).
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**18.55 "Сокровища мертвых"**. Телесериал 2-я **серия**.
**19.55 "Невозможные зеленые глаза"**. Телесериал. **3-я с**ерия.
**21.40** Секретные материалы: расследование ТВЦ.
**22.25** Времечко.
**22.55** Петровка, 38.
**23.15** 25-й час. События. Время московское.
**23.35** Серебряный диск.
**23.55 "Вспомнить все"**. Фантастический боевик (США).
**00.45** "Синий троллейбус". Телефон доверия для полуночников.

### EUROSPORT

**09.30** Конный спорт. Конкур. Ла Корона. Повтор.
**10.30** Санный спорт. Парк Сити.
**11.00** Скиеркросс. Повтор.
**11.30** Биатлон. Хохфилцен. Повтор.
**12.15** Биатлон. Кубок мира. Женщины. Прямая трансляция.
**14.15** Биатлон. Хохфилцен. Повтор.
**15.00** Биатлон. Кубок мира. Мужчины. Прямая трансляция.
**17.00** Футбол. УЕФА. Лига чемпионов. Классика. Журнал.
**19.00** Биатлон. Кубок мира. Мужчины. Повтор.
**20.00** Биатлон. Кубок мира. Женщины. Повтор.
**21.30** Бокс. ТВА.
**23.00** Конный спорт. Соревнования по конкуру. Лондон. Прямая трансляция.
**00.15** К-1. Гран-при. Фукуока. Повтор.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

**Рэдактар нумара Даша ПАЎЛОЎСКАЯ**



**Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП "Красная звезда", 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 230 экз. Заказ № 860.**